# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1970
Верасень-
Кастрычнік

Год XVIII
№ 5 (122)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1970 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY., Gt.Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


ON GOD'S HIGHWAY

Year XVIII September—October № 5 (122)
1970

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE,
LONDON, N. 12, 8 HY ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVIII | ВЕРАСЕНЬ—КАСТРЫЧНІК | № 5 (122)

*а. Т. Падзява*

# Рымскія ўгодкі

Нідзе мусіць на сьвеце Божыя справы так ня пераплятаюцца цесна з чалавечымі, як у Рыме. Чым быў-бы Рым без сьвятых апосталаў Пятра і Паўла, якія зрабілі з яго сталіцу хрысьціянства? Нас захопліваюць ацалеўшыя памятнікі таго магутнага паганскага Рыму, які мроіў стацца вечнай сталіцай усенькага сьвету! Аднак гэтыя сьляды мінулае моцы і славы захаваліся толькі таму, што апякавалася імі Царква, бо з імі была зьвязана гісторыя хрысьціянства. Наступнікі сьв. Пятра хутка здабылі магчымасьць ня толькі запабегчы поўнаму зьнішчэньню багатае і пышнае сталіцы, але яшчэ адбудаваць на яе руінах новы пасад таго Валадарства, якому па волі Божага Заснавальніка і згодна з верай усіх хрысьціян «ня будзе канца».

Пэўне-ж сказанага ня трэба адносіць да папскае сьвецкае дзяржавы, якая перастала існаваць таму роўна *100 год.*

20-га верасьня 1870 году, пасьля 4-х гадзін змаганьня — гарачага і крывавага — у якім са стараны папскіх ваякаў было забітых 60 чал., а са стараны здабываючых Вечны Горад італьянскіх жаўнераў 175, Папа Пій IX загадаў свайму войску паддацца: гэтак папская дзяржава разам са сталіцай увайшла ў склад новае Італіі.

Дзіўным трафам якраз сёлета, у сотую гадавіну свайго існаваньня, Італія ізноў распадаецца на 18 даўнейшых малых гаспадарстваў-штатаў, называных цяпер рэгіёнамі, якія аднак не забыліся за сто гадоў, што калісь былі незалежнымі і былі злучаны вонкавым прымусам, хоць і пад прыгожымі лёзунгамі, але бяз згоды насельніцтва гэтых рэгіёнаў. Праўда, італьянская дзяржава ня перастае яшчэ існаваць, бо яшчэ ня зьнік той прымус, які яе стварыў, дый ува ўсіх гэтых розных па характару і па традыцыі людзей ёсьць яшчэ даволі шмат супольнага, каб пачувацца, калі трэба, адным народам.

Аднак трэба ведаць, што і традыцыі, якія іх дзеляць, ёсьць вельмі даўнія, часамі больш чым тысяча-гадовыя, загартаваныя ў войнах, якія гэтыя «міні-дрзяжавы» вялі бязупынна паміж сабою, так што тое, што іх дзеліць, ёсьць яшчэ мацнейшае ад таго, што іх лучыць. Вось-жа ім трэ' было дачакацца большае свабоды ў сяньняшнім вольным сьвеце, каб адразу зажадаць належнага права, каб наладзіць у кожным рэгіёне жыцьцё па свойму, атрымліваючы шырокую аўтаномію.

Адзін толькі Папа ня высунуў ніякіх прэтэнсіяў да «свайго Рыму» і да сваей дзяржавы: ён уважае, што хопіць яму і Ватыкану, каб выконваць незалежна духоўную ўладу ўва ўсім сьвеце. Дый Рым сяньня ўжо зусім ня той, што быў у 1870 годзе: Рым стаў горадам 10 разоў большым, а прытым ён яшчэ неабходны як сталіца італьянскай дзяржаве, пакуль яна існуе.

*

Але вось цікава будзе прыпомніць, што ліквідацыя сьвецкае ўлады Рымскага Папы наступіла ўсяго толькі два месяцы пасьля найбольшага ў гісторыі здарэньня ў Каталіцкай Царкве, калі І-шы Ватыканскі Сабор у 1870 годзе акрэсьліў непамыльнасьць Папы ў дагматах веры і маральнасьці. — Якраз цяпер сьвяткуем угодкі — 100 гадоў — гэтага факту.

Гэты Сабор, як ведама, на апошняй сэсіі 18 ліпня 1870 г. сьцьвердзіў: Калі Папа, як апошняя і найвышэйшая інстанцыя, забірае голас у навучаньні веры і абычайнасьці (маралі), дык ягоная дэцызія зьяўляецца праўдай непамыльнай, ад якой няма ніякае апэляцыі — «Рым сказаў — справа кончана»!

І тут важна адзначыць, што праблема непамыльнасьці выплыла на Саборы зусім неспадзявана! Ані сам Папа, склікаючы Сабор, ані камісіі, якія прыгатавалі больш 50 схэмаў, якія трэ' было абмеркаваць на Саборы, ня мелі ў думцы парушаць справу папскае непамыльнасьці. Выплыла яна зьнячэўку, як гэта здаралася і на іншых Саборах, у чым самі біскупы бачылі ўплыў Сьвятога Духа. Паднялі справу францускія біскупы: разгарэлася дыскусія, якая трывала каля двух месяцаў. Агулам цэлы Сабор уважаў справу яснай і згаджаўся з ёю, толькі ўзьнікала

сумневаньне, ці надыйшоў адпаведны час: нямала біскупаў сцьверждалі, што якраз паўстануць супрацівы ўва ўсім сьвеце, дык лепш будзе пастанову Сабору адлажыць да часу спакайнейшага...

Але большасьць стаяла на сваім і дамагалася галасаваньня, якое нарэшце і адбылося: за догмат галасавала 535 біскупаў, а супраць яго 3 — толькі! Іншыя ў апазыцыі не хацелі тварыць ні бунту, ні разрыву, але пакінулі Сабор і перад самым галасаваньнем нагла выехалі з Рыму: іх было 61 чалавек. Гэтым Царква не падзялілася, бо апазыцыя пасьля прыняла пастанову Сабору, за выняткам пары біскупаў, якія ўтварылі, так званы, «Стара-Каталіцкі Касьцёл» у Галяндыі і Швайцарыі, да якога далучылася па некалькі дзесяткаў тысяч каталікоў. Яны трываюць дасюль і значна схіліліся да пратэстантаў.

У часе галасаваньня прайшла над Рымам сільная бура з грымотамі і пярунамі, што ворагі Царквы тлумачылі Божым гневам; але самі біскупы высьнялі, што якраз у буры і пярунох Сам Бог абяўляў свае запаведзі на Сынаі Майсею і жыдоўскаму народу. Наагул догмат гэты быў прыняты ў Каталіцкай Царкве згодна і з карысьцяй, бо ўзмацавалася пры гэтым лучнасьць і адналітасьць каталіцкае рэлігіі.

У наступны дзень Сабор мусіў раз'ехацца, бо пачалася вайна Францыі з Прусіяй. Францускі кароль Напалеон III-ці, які да гэтага часу трымаў свае войска ў Рыме, каб падтрымаць царкоўную дзяржаву, цяпер быў змушаны забраць сваіх жаўнераў з Італіі. Калі-ж 2 верасьця 1870 г. Напалеон папаў у палон з усім войскам пад Сэданам, дык у Парыжы была ўстаноўлена рэспубліка. Цяпер італьянскі ўрад меў разьвязаныя рукі і кароль Віктор-Эммануэль накіраваў генэрала Кадорну супраць папскае дзяржавы: пачалася вайна і Рым здабылі італьянцы, а Папа Пій IX замкнуўся ў Ватыкане, на які італьянцы нападаць не паважыліся...

---

*Уладзімер Глыбінны*

# На Сьвятой Зямлі

(НАРЫСЫ З ПАДАРОЖЖА Ў ПАЛЕСТЫНУ)

*(Працяг)*

## VIII

### У ВІФЛЕЕМЕ, МЕСЬЦЕ ДАВІДАВЫМ

*«Слава в вышних Богу, и на земли мир, в человецех благоволеніе»!*

За два тыдні штодзённых экскурсыяў па сьвятых месцах Арабскае Палестыны паломнікам пашэнціла пабываць яшчэ ў многіх царквах, манастырох, капліцах на мясцох дзейнасьці самога Хрыста або ягоных вучняў, сьвятых евангелістаў і апосталаў, прызнаных хрысьціянскімі царквамі падвіжнікаў і памнажальнікаў Хрыстовага сьвету. Ніколі не забудзецца наведаньне мясьцінаў нароаджаньня Хрыста ў Віфлееме, градзе Давідавым, дзе і цяпер пераважна хрысьціянскае насельніцтва. Яшчэ здалёку, пасьля сямікілямэтравага падарожжа з Ерусаліму, ён раптам узьнікае перад зьдзіўленымі вачыма высокай каланчой і вежамі сваёй базылікі Нароаджаньня Хрыста. Яна ў самым асяродку горада. Даўней, у біблейскія часы, батлейка знаходзілася на поўдзень ад тагачаснага Віфлеему. Тады там хаваліся ў благое надвор'е пастухі з скацінай. З усходу пячоры яна вяла ўніз. Скала прыхоўвала ўваход, закрываючы яго, як брылем, ад дажджоў і паводкі. Гэта была даўжынёю ў 12 мэтраў, ушыркі і вышынёю нешта каля трох мэтраў. Тады ўваход знаходзіўся з заходняга боку. Цяпер ён закладзены каменьнямі. Каля ўсходняга канца ў таўстой скале была ніша. Там і адбылося Божае ўцелаўленьне ў чалавека.

У трох кроках ад яго ёсьць іншая ніша ніжэй з выдаўбленым камнем: яна была за кармушку для ягняткаў. Яна і сталася Божаю калыскай.

Здаўна жыхары Віфлеема пакланяліся таму месцу. Пачынаючы ад Першага Ерусалімскага япіскапа вяліся запісы аб ім. Першыя хрысьціяне пабудавалі там Царкву. Рымскі цэзар Адрыян разбурыў яе і паставіў быў там паганскае божышча Адоніса. Але ў 330 г., прызнаўшы Хрыста, цар Канстантын Вялікі паставіў над сьвятымі Ясьлямі цудоўную базыліку. Божым цудам ёй адзінай пашэнціла ўцалець ў разбуральных падзеях часу. У ёй вось ужо больш чымся 16 стагодзьдзяў моляцца хрысьціяне. Праўда, кры-

жаносцы пабудавалі вакол яе магутныя сьцены. Цяпер сама Царква Народжаньня Хрыстовага бадай што знадворку не бачна. Яна цалкам ўлучаная ў сьцены замку-крэпасьці, якая і ратавала яе неаднокраць ад разбойных наскокаў бэдуінаў. З трох уваходаў у Царкву два былі зусім замураваныя, а пакінуты ўваход у Царкву быў гэтаксама часткава замураваны. Чалавек можа увайсьці ў яго адно сагнуўшыся. Гэта каб не дазволіць ўехаць у Царкву бедуінскаму конніку, які і хацеў бы паграбіць у Храме, пазьдзеквацца з хрысьціянскае сьвятыні, ды яму не выпадала злазіць з каня. І цяпер можна бачыць там сьляды архітэктурнае формы высокіх дзьвярэй-уваход ў Царкву, простакутны портык з перакрыцьцем з цясанага камня наверсе ды з двумя кансолямі-падпоркамі чыста Аттычнае прыгажосьці. Але ў мэтах бясьпечнасьці і пакінутая адтуліна замыкаецца магутнымі жалезнымі дзьвярыма.

Увайшоўшы праз тую адтуліну, наведвальнікі трапляюць адразу ў вялізарную даўгую царкву з высокімі калёнамі карынфскага стылю, што ў два рады ідуць па абодвых баках, творачы шырачэзнейшыя крылы, крыху ніжэйшыя за цэнтральнае, вышынёю ў 15 мэтраў. Удаўжыню паломнікі ідуць аж



*Грота Нараджэньня*

22 мэтры, пакуль дойдуць да ўзьнятага алтара і іконастаса над самім колішнім месцам батлейкі. Да яе вядуць два баковыя спускі па напоўкруглых лесьвіцах. Усярэдзіне хораму на падлозе яшчэ захаваліся рэшткі першапачатнай мазаікі, якія цяпер знаходзяцца пад адмысловай драўлянай накрыўкай, бо сучасная падлога пазьнейшага паходжаньня. Захавалася і старадаўняя купель з чырвонага парфіра.

Трохярусны іканастас адлучае высокай сьцяной вялікі алтар, ўпрыгожаны вялікім абразом Укрыжаваньня. На абразах дарагія рызы. Скрозь вісяць панікадзілы. На калёнах відаць рэшткі бізантычнага царкоўнага малярства. Па бакох галоўнага алтара — бочныя алтары сьв. Міколы (грэцкі) і па аднаму абісінскаму і армянскаму.

Месца Батлейкі унізе на ўзроўні мармуровае падлогі аабзначана срэбрнай зоркай і надпісам: «Тут ад дзяўчыны Марыі нарадзіўся Ісус Хрыстос». Над зоркаю — 15 срэб-



*Базыліка Нараджэньня Хрыста*

раных лампадаў. Вышэй — мармуровая дошка за прастол. Над ім зноў лампады. На сьценах — дарагія аксамітныя ткані. Тут праваслаўныя чыняць Літургію. Справа насупраць абтлейкі прастол каталіцкі, прысьвечаны тром вяшчуном. Колькі малых панікадзіл і два падсьвечнікі асьвятляюць сярэдзіну першага жыльля Госпада. У заходняй частцы Батлейкі ёсьць колькі пячораў: сьв. Язэпа, дзе яму зьявіўся Анёл, пячора пахаваньня сьв. Ероніма і месца пахаваньня сьв. Паўлы і Еўстохіі. Яны належаць каталікам. Апошнія маюць манастыр, што мяжуе з Царквою Нараджэньня Хрыстовага. Сама ж Царква Нараджэньня належыць праваслаўным. З паўдня да яе прылягае грэцкі манастыр з рэшткамі вежы часоў Юстыніяна. Там жыве Япіскап Віфлеемскі. На падворышчы тога манастыра раскопкі выкрылі агромністыя падземныя магілы з безліччай дзіцяцых касьцей. Відаць, там было масавае забойства дзяцей ў часы Ірада.

Недалёка ад Віфлеема ляжыць поле, агалошанае нябеснымі сьпевамі — анёльскім абвешчаньнем пастухам аб нараджэньні Хрыстовым. На месцы былой Царквы Пастухоў Віфлеемскіх цяпер адно рэшткі вялізарнага фундаманту, фрагмэнты калёнаў і капітоліяў перад спускам у падземную капліцу. Белы Крыж з каменя значыць месца зьяўленьня Анёла. У алтары з бедным іканастасам штотыднёва моляцца арабы-хрысьціяне. На дарозе ў Віфлеем знаходзіцца і грабніца

любімай жонкі Якава — Рахілі. Яе шануюць і жыды і магамэтане. Апошнім і належыць тое месца.

Вяртаючыся ў перадвячорны час з Віфлеему ў Ерусалім і праяжджаючы па Есафацкай даліне, падарожны міжвольна прыпадзе паглядам да залітых сонцам залатых купалоў праваслаўнае царквё сьв. Марыі Магдалены. Сем аграмадністых і звычных нашаму воку цыбуляпадобных купалоў аж зіхацяць, пераліваючыся, адбітым сонцам і ўжо здалёку прыгадваюць, што мы, праваслаўныя паломнікі, там, на Сьвятой Зямлі, фактычна ў сябе ў хаце, на роднай нам глебе, зь якою пароднёныя агульным Сьвятым Духам, адзіным духовым настаўнікам і агульнымі для нас помнікамі — храмамі ў славу Хрыстовую. І тады мы зноў у думках наведваем сьвятую Магдаленаву царкву, ўзіраемся ў цудоўны іканастас з белага мармуру, арнаментаваны цёмнай бронзаю, прыгадваем такую прыгожую Царскую Браму, цалуем іконы пэндзаля Верашчагіна. Мы ў думках зноў стаім на рознаколернай мармуровай падлозе тае царквы і цешымся з яе багацьця і гульні колераў у гэтак заўсёды па-асабліваму сьветлай ад раскошы сонечнага сьвятла царкве. О, той сьветлы ўспамін ніколі не зьвядзецца ў уяўленьні кажнага чалавека, які яе хоць раз пабачыў у сваім жыцьці.

А хіба можна забыць суседнюю Царкву Ўсьпеньня Божай Маці зь яе шырокай лесьвіцай і ўпрыгожанымі ўрачыстым гарэньнем безьлічы сьвечаў на ступеньках, якія вядуць у падземны Храм, які ўважаецца не адно хрысьціянамі, але таксама і магамэтанамі, для якіх нават і адведзена адмысловае месца малітвы — так званы «міхраб» справа ад грабніцы. Над Гробам Прачыстай Багародзіцы тут у 754 годзе сьв. Іоанн Дамаскін трымаў натхнёную казань у прысутнасьці агромністае колькасьці архірэяў, манахаў і народу. Тут праваслаўные, сірыйцы, армяне, копты, каталікі штодзённа служаць літургіі.

А вакол раськінуўся аліўкавы Гефсіманскі Сад, які штодня ўвечары купаецца ў зыркім сонцы і адпраменьвае яго сваёю пашарэлай зелянінай і гушчынёю стройна-высокіх кіпарысаў. За ім уздоўж дарогі зрок вядзе вышэй на Елеонскую гару, месца Ўзвышэньня Госпада Ісуса Хрыста. Там на тым месцы некалі стаяў пастаўлены царыцай Аленай вялікі Храм «Імвамон» без купала, каб маленьнікі сузіралі ў часе малітвы тое самае неба, куды ўзьнёсься Збаўца. Пэрсы яго разбурылі. Цяпер над камнем, зь якога адбылося Ўзьнясеньне, стаіць капліца. Камень з ступнёю Хрыстовай абведзены мармуровай рамкаю. У дзень Ўзьнясеньня цяперашнія ўласьнікі-магамэтане дазваляюць служыць у двары вакол капліцы у шатрох. За невялікую плату дапушчаюць аглядаць Божую ступню, т. зв. «Стопачку». На месцы колішняга манастыра крыжаносцаў цяпер там побач з «стопачкай» — мінарэт. Але над усім гэтым на гары Елеонскай (масьлічнай) ўзвышаецца белай каланчой і праваслаўным крыжом над ёю Царква Ўзьнясеньня Гасподняга і жаночы манастыр пры ім. Каланча вышынёю аж у 64 мэтры. Там жа створаны археялягічны музэй працамі архімандрыта Антаніна. Царква пережыла цяжкія часы турэцкай акупацыі Палестыны, барбарскія зьдзекі над хрысьціянскімі сьвятынямі турэцкага салдацьця, што стаялі нейкі час у царкве ў часе Першае Сусьветнае вайны. Пасьля вызваленьня ад туркаў сёстры знайшлі панішчанымі крыжы, замазаныя вапнай образы, паламаныя іконастасы. Працамі саміх сясьцёр Царква і манастыр былі адноўленыя, абразы зноў расьпісаныя ў бізантычным стылі. Цяпер вялікі абраз «Хуткапаслушніцы» ўважаецца цудатворным. Вялікія мастацкія каштоўнасьці ляжаць у мазаічных абразах Капліцы Знаходжаньня Галавы Іоанна Прадцечы. На Елеонскай жа гары ў 1907 годзе была распачатая пабудова Храма Страшнога Суду Гасподняга, але вайна і рэвалюцыя ў Расеі запынілі сродкі з Расеі, і Храм гэтак і застаўся пабудаваным адно першым ніжнім храмам, які цяпер і носіць назоў Царквы сьв. Філарэта Міласьцівага. Наагул у Сьвятых Месцах можна бачыць шмат не даведзеных да канца пабудоваў цэркваў за кошт Колішняга Расейскага Палестынскага Аб'еднаньця, якое было зачыненае пасьля рэвалюцыі. Пры манастыры на Елеоне маецца малочная гаспадарка, садоўнітва, залаташвэйная і іконопісная майстроўні, якія выконваюць заказы для ўсёй Эўропы і Амэрыкі. Разам з падаяньнем ахвярных паломнікаў гэта дае змогу эканамічна існаваць манашаскай брацці і сястрычаству, людзям, што шукаюць яднаньня з Богам на Сьвятой Зямлі і ахпяруюць усе свае адлічаныя гадзіны жыцьця Божай службе. Іхняю ахвярнаю працаю Сьвяты Елеон і ўсе сьвятыя мясьціны вакол Граду непарушна стаяць на варце Хрыстовага вучэньня і будуць заўсёды падтрымваць агонь, запалены тут бадай што дзьве тысячы гадоў таму назад.

Усеваладу Ціхановічу было соладка перабіраць у думках чыны тых ахвярных людзей, і ён удзячліва пастараўся мацней зацеміць іх у сваёй памяці.

Ад гэтых думак яго адцягнула пабачаная неўзабаве з вакна аўтабуса далёка ўперадзе насупраць Храма Ўсьпеньня Божай Маці невялікая капліца ў цені кіпарысавай. Гэта было месца пабіеньня каменьнямі сьв. першапакутніка Стафана. На адчыненым паветры стаялі колькі дзесяткаў людзей і ма-

ліліся ўкленчыўшы ў знак памяці пакутніка Стафана.

А насупраць Гары Елеонскай у мурох Ерусалімскай Сьцяны Ўсевалад ня ў стане быў і на гэты раз не адзначыць асобна Залатую Браму. Яго ўяўленьне заўсёды хвалявала ідэя Замураванае на доўга яшчэ, мабыць на тысячагодзьдзі, зачыненае для руху людзкога, каб не апаганьваць сябе сучаснаю Садомаю і Гамораю Брамы, каб некалі чыстай цудоўна расчыніцца ў часе другога прыйсьця Сына Божага, каб даць яму ўва ўсёй духовай раскошы зноў прайсьціся па старых шляхох і прынесьці канчальнае вызваленьне чалавеку ад ягонае грэшнае існасьці.

— Дай жа, Божа, каб хутчэй тое збылося! — прагаварыў сябе Ўсевалад і зноў аддаўся ружовым уяўленьням, як будзе з усяго сьвету народ вітаць зварот свайго Збаўцы і Залатая Брама будзе прамяніцца водблiскам вечнае славы Богачалавека.

З гэтымі прыцягальнымі ў думках абразамі яго і ўвозіў у Сьвяты Горад шумлівы звычайна, але на гэты раз неяк прыцішэўшы аўтабус. Сьвяты Град ужо напоўняўся зноў гаварлівым натоўпам загарэлае моладзі і заліваўся вечаровым сонцам.

---

*а. Аляксандар Надсон*

# Беларускі рэлігійны твор канца XVII стаг.

## „Малітвы пры сьвятой літургіі“ 1695 г.

Сярод розных пабожных тэкстаў у малітаўніках віленскага выданьня Мамонічаў і Праваслаўнага брацтва канца XVI—XVII стагоддзяў, *Малітвы пры сьвятой літургіі* зьвяртаюць на сябе ўвагу сваей арыгінальнасьцю. Усе іншыя малітвы і царкоўныя службы — за выняткам малітв сьв. Кірыла Тураўскага — з'яўляюцца царкоўнаславянскімі перакладамі традыцыйных, пераважна грэцкіх тэкстаў. *Малітвы пры сьвятой літургіі* робяць уражаньне самастойнага твору мясцовага паходжаньня. У сваім пачатковым выглядзе гэты твор, які быў прызначаны для сьвецкіх людзей, складаўся з раду малітв у царкоўнаславянскай мове да ціхага чытаньня ў часе сьв. літургіі. Першы раз *Малітвы пры сьвятой літургіі* былі надрукаваныя ў кніжцы *Штодзённыя малітвы*, выданай ў 1596 г. віленскім Праваслаўным брацтвам. Пяць гадоў пазьней, у 1601 г., яны былі перадрукаваныя ў аднайменным — праўдападобна уніяцкім — малітаўніку Мамонічавага выданьня, які быў перавыданы ў 1609 г.[1]) На працягу XVII стаг. віленскае Праваслаўнае брацтва выдала даволі шмат рэлігійных кніг для сьвецкіх людзей, сярод іх некалькі малітаўнікаў. Некаторыя называліся *Дняўнік (Дневник)*, іншыя — *Поўустаў (полуустав)*. Зьмест абодвух выданьняў быў падобны і складаўся галоўным чынам з тэкстаў прыватных малітв і царкоўных служб — вячэрная, павячэрніца, вутраня, розныя акафісты і каноны і т. д. — але без частак, якія належалася гаварыць сьвятару ці дыякану. У *Днеўніку* 1652 г.[2]) знаходзяцца таксама *Малітвы пры сьвятой літургіі*, тэкст якіх нічым не розьніцца ад тэксту папярэдніх выданьняў. Затое *Малітвы пры сьвятой літургіі* у *Поўуставе* 1695 г.[3]) маюць

---

1) *Молитвы повседневные з многих святых отец, Церкве Христовы учителеи, с писма греческаго вкратце избраны... Выдрукованы суть в Вильни в друкарни дому Мамоничов року 1601.* Дакладнае апісаньне гэтага малітаўніка і параўнаньне яго з малітаўнікам 1596 г. гл.: А. Надсон, «Малітаўнік Мамоніча 1601 г.», *«Божым Шляхам»*, Лёндан 1970, № 1, ст. 8—12; № 2, ст. 5—6.

Адзін паасобнік *Штодзённых малітв* знаходзіцца ў Бодлейскай бібліятэцы ў Оксфардзе. Бібліятэка Упсальскага Унівэрсытэта мае выданьне малітаўніка 1609 г.

2) *О эфімэріос си есть Ддевник всегдашних молитв... Трудолюбіем іноков С. Обители Сошествія Пресвятаго и Животворящего Духа... в Вильни, Року Господня 1652.* Кніга прысьвячаная Хрыстафору Трызне «дворянину покоевому его королевскоми милости». Адзін паасобнік *Днеўніка* без тытульнай старонкі знаходзіцца ў бібліятэцы Упсальскага унівэрсытэта. В. Ластоўскі у сваей *Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі* (Коўна 1926, ст. 571) дае кароткае апісаньне гэтага выданьня і фатаграфію тытульнай старонкі.

3) *Полуустав имеяй нощную и дневную службу всего лета... Трудолюбіем іноков С. общежительныя обители Сошествія Пресвятаго и Животворящего Духа изображенныи. В Вилни, Року 1695.* Кніга прысьвячаная Васілю Красінскаму, старасьце прапойскаму і харужаму смаленскаму, і Цімафею Красінскаму, старасьце гомельскаму і стольніку чахоўскаму. Перад прысвячаньнем замешчаны гэрб і наступная дагэтуль няведамая эпіграма

адменны характар. Тэкст саміх малітваў у царкоўнаславянскай мове астаўся амаль без зьмен, але невядомы аўтар дадаў да іх абшырныя паясьненьні ў беларускай мове. Такім чынам атрымаўся цікавы і арыгінальны



*Поўустаў 1695 г. Тытульная старонка*

твор, які можна назваць беларускім у поўным значэньні гэтага слова.

*Малітвы пры сьвятой літургіі* з'яўляюцца не літургічным творам, якіх бізантыйская рэлігійная літаратура ведае некалькі, але пабожнай практыкай. Яны напамінаюць г. зв. *размышляньні падчас сьв. імшы*, якія былі даволі распаўсюджаныя на каталіцкім Захадзе, дзе багаслужбы былі ў незразумелай для народу лацінскай мове і таму народ не мог браць у іх чыннага ўдзелу. На Усходзе розьніца між народнай і літургічнай мовамі ніколі не была так вялікай, як на Захадзе. і народ мог удзельнічаць у багаслужбах, сьпяваючы і адказваючы сьвятару ці дыякану кароткімі «Госпадзі, памілуй», «Падай, Госпадзі», «Табе, Госпадзі» і т. д. Відаць, аднак, што ў канцы XVI стаг. на Беларусі гэтая практыка прыйшла ў заняпад. Магчыма адной з прычынаў было ўвядзеньне і шырокае распаўсюджаньне царкоўных хораў, якія ўзялі на сябе ролю, якую раней выконваў народ. Вось тады і магла нарадзіцца ў некага думка скласьці *Малітвы пры сьвятой літургіі* на ўзор падобных заходніх практык.

Аўтары *Малітв* — а іх было прынамсі два і яны жылі ў розным часе — напэўна належалі да віленскага Праваслаўнага брацтва, або былі цесна зьвязаныя з ім, будучы напр. манахамі ў брацкім Сьвятадухаўскім манастыры. Яны добра ведалі царкоўнаславянскую мову і літургію паводле бізантыйскага абраду, і былі таксама знаёмыя з заходнімі рэлігійнымі практыкамі. У гэтым апошнім няма нічога дзіўнага, бо ў тым часе многія праваслаўныя беларусы вучыліся ў каталіцкіх — пераважна езуіцкіх — школах.

*Малітвы пры сьвятой літургіі* з'яўляюцца каштоўнай крыніцай для пазнаньня рэлігійных звычаяў праваслаўных беларусаў XVI—XVII стаг. Так, напрыклад, у тым часе не было абычаю частага прычасьця вернікаў, і гэта аўтары *Малітв* узялі пад увагу. Царкоўныя хоры не сьпявалі ўсей літургіі, але некаторыя часткі яе былі чытаныя (рэцытаваныя). Традыцыя чыннага ўдзелу народу ў сьвятой літургіі не замерла яшчэ зусім, і час ад часу ў тэксьце знаходзяцца вось такія, ці падобныя ім, указаньні: «Ґды блаженна хор читает албо спевает, и ты оные читай». Ёсьць таксама нямала ўказаньняў, як павінен вернік захоўвацца ў часе сьв. літургіі, напрыклад: «А гды выходит священник з олтаря з божественными Дары, чинячи великую процесію и мовячи: Всех вас православных христіян да помянет Господь Бог в царствіи своем. Поклякнувши коленами на землю, розмышляй, яко жидовскіе дети, едны рожчки палмовые и оливные, а другіи сукни свои постилали под ноги Христовы, и песни ему вдячные приносили, волаючи: Осанна, благословен грядый во имя Господне, Царь Израилев».

*Малітвы* з'яўляюцца таксама дакумантам веры тагачасных праваслаўных беларусаў. Багасловаў напэўна будуць цікавіць тыя ча-

«на гербовныи клейнот велможных их милостеи панов з Красна Красинсих»:

Крест знаменіем ест всегда победы,
Сохраняяи нас от всякои от беды.
А птенец в перстню небо фигуруе,
Подкова к нему путь явне торуе.
Сими клеиноты Дом Красинских красныи,
И межу светилы всегда зрится ясныи.

Адзін паасобнік *Поўуставу* знаходзіцца ў бібліятэцы Упсалькага унівэрсытэта.

сткі, якія маюць дачыненьне да пытаньня моманту ў часе сьв. літургії, калі хлеб і віноператвараюцца ў Цела і Кроў Хрыстовы. У гэтым адпаведныя тэксты *Малітв* не астаўляюць ніякага сумніву: «А гды мовит священник слова Христовы: Пріимите, и ядите, и прочая... Ведай, же по вымовленю тых слов от священника непонятым человекови способом, хлеб, над которымся то мовить, на дискосе положенный, юж не ест хлебом далей, але пренаидорожшим зостает телом Христовым... А гды зась мовит священник слова Христовы: Пійте от нея вси, сія ест кров моя, и прочая: Розмышляй, якося Кровь Святая з тела Збавителевого выливала, ведай теж, же за тыми словы священниковыми вино в животворящую Кровь Сына Божого преистночается».

Гэтыя тэксты цікавыя тым, што яны паказваюць, што паміж беларусамі праваслаўнымі і каталікамі ў тым часе панавала ў гэтым пытаньні поўная згода. З другога боку яны супярэчаць вучэньню Грэцкай і Маскоўскай Праваслаўных цэркваў, паводле якога ператварэньне адбываецца ў часе г. зв. *эпіклезісу*, або прызываньня Сьвятога Духа, якое сьвятар робіць пасьля вымаўленьня слоў Хрыстовых. У сувязі з гэтым варта прывесьці цікавае выясьненьне значэньня эпіклезісу ў беларускіх *Малітвах:* «Тут абысмося Збавенных таин годне причастили, священник Духа Святого призывает, мовячи: И сотвори хлеб убо сей честное Тело Христа твоего; а еже в чаши сей честную Кров: якоже быти причащающимся нам во трезвеніе души, во отпущеніе грехов, абысмося не для осужденія, але для спасенія Спасителем посиляли».

*Малітвы пры сьвятой літургіі* з'яўляюцца адным з апошніх беларускіх старадрукаў і таму маюць даволі вялікую цікавасьць для мовазнаўцаў. Мова твору мае шмат паланізмаў. З другога боку ў ім адчуваецца ўплыў царкоўнаславянскай мовы большы, чым у помніках беларускага пісьменства XVI і пачатку XVII ст. Відаць па меры таго як беларуская мова траціла грунт на карысьць польскай у сфэры грамадзкага ўжываньня і аставалася толькі ў рэлігійным ужытку, яна пачала зноў падпадаць пад уплыў царкоўнаславянскай, якая была для яе ўзорам.

Поўны тэкст *Малітв пры сьвятой літургіі* паводле *Поўуставу* 1695 г., які захоўваецца ў бібліятэцы Упсальскага унівэрсытэту, будзе перадрукаваны на старонках *«Божым Шляхам»*. З прычыны даволі вялікай даўжыні твору, яго прышлося падзяліць на часткі.

Мова помніка астаўлена без зьмен. З практычных прычын аказалася немагчымым перадаць усе графічныя асаблівасьці арыгіналу. У прыватнасьці прышлося адмовіцца ад перадачы розных форм *о, у, я*, і літара *ѣ* («яць») усюды заменена літарай *е*. Цьвёрды знак захаваны толькі ў сярэдзіне слова і ў прыстаўках, але не ў канцы. З другога боку ўсюды захаваныя *ґ* і *г*, якія адказваюць лацінскім літарам *g* і *h*. Для выгоды чытачоў былі расчыненыя ўсе скарочаньні *(цітлы)*. Даволі шматлікія фатаграфічныя рэпрадукцыі даюць добрае паняцьце аб графічных асаблівасьцях арыгіналу.

## Молитвы при святой литургіи

Входячи в Церковь, мов тую молитву:

Возвеселихся о рекших мне, в дом Господен внідем. Аз же множеством милости твоея, внійду в дом твой, и поклонюся ко Церкви святей твоей в страсе твоем. Господи настави мя правдою твоею, враг моих ради исправи пред собою путь мой. Да пославлю едино Божество Отца и Сына и святаго Духа, и ныне и присно и во веки веком, Аминь.

А станувши пристойне на своем местцу, клади на себе знак Креста святаго, и кланяйся трикроть мовячи:

В имя Отца, и Сына и Святаго Духа, Аминь.

А потом трикроть бючися в перси з скрухою сердечною, мов:

Боже милостив буди мне грешному.
Боже очисти грехи моя и помилуй мя.
Без числа согреших Господи, прости мя.

И зараз ним почнетъся Святая Литургія, мов тую молитву з скрухою сердечною:

Молитва пред зачатіем Святыя Литургіи.

Господи Іисусе Христе, иже еси щедр и милостив всем призывающим тя истинно, тебе молюся, и тебе милися дею, сподоби мя со тщаніем и любовію и страхом, Даже да конца Божественныя службы пребыти, и сокрушенным сердцем и чистою совестію молитися тебе милосердному Богу. Ей Господи Царю, услыши мя начинающа призывати тя, и даруй ми оставленіе всех моих грехов. Яко един благословен со Отцем и со Святым Духом во веки, Аминь.

А ґды священник, от взываня святой Троици починаючи святую Литургію, мовит:

Благословенно Царство Отца и Сына и Святаго Духа

Ты яко з наболшим набоженьством, положивши на себе знак Креста святаго, поклонися мовячи:

Аминь.

Тут же с пилностю и набоженством розмышляй, и припоминай себе раду оную таемную предвечную, Бога в Троици святой единаго, которая была о направе народу людскаго, за поводом справедливости и милосердія Божого, и которая потомься на скончение веков втеленіем Сына Божого открила, а розмышляючи мов тую молитву:

Боже, Боже мой, призри на мя грешнаго, и исправи молитву уст моих, отжени помыслы скверныя от сердца моего, и просвети ми ум светом твоего богоразумія. Приклони ухо твое и услыши мя молящатися, и твоея сильныя милости чающа. Яко ть еси Бог мой, пред тобою в домy твоем молитвеннем вопію, укрепи мя и вразуми Боже щедрый во страсе твоем, Аминь.

Потом слухай з пилностю ектеніи от Діякона албо от Священника отправуючихъся, и Антифонов на хоре читаных албо спеваных. И розмышляй набожне, як Отцы святыи в аде будучіи пред пристем Христовым, надеею пристя его упевненыи, молилися, а уставичные воланя, и плачевные голосы, о выбавене свое до Бога выпущали: и тут собе, и ближним милосердія и ласки у Бога просячи, мов з хором: Господи помилуй.

Ґды зась на втором Антифоне спевают, Единородный Сыне: набожне розмышляй, як Архангел Гавріил з неба до Пречистой Панны зшедши, Благовестил Сына Божаго початe, як Сын Божій з Духа Святаго и з крвеей Паненской над прирожене и над поняте


МОЛИТВЫ,
при Стой Литургіи.
Входячи в Церковъ, мов набожне тую Млтву.
Возвеселихъся о рекшихъ мнѣ, в домъ Гдн҃ь внiйдем. Азъже множествомъ млти твоея, внiйду в домъ твой, и поклонюся ко Церкви святѣй твоей во страсѣ твоемъ. Гдн҃и настави мя правдою твоею, врагъ моихъ ради исправи пре собою путь мой. Да прославлю едино Бжество Отца и Сна и Стаго, Дха, и нинѣ и присно и во вѣки вѣкомъ, Аминь.
Встанувъ


при с. Литург...
Встанувъши пристойне на своемъ мѣстцу, клади на себѣ знакъ Крта стаго, и кланяйся три кроть мовачи:
Въ имя Отца, и Сна, и Стаго Дха, Аминь.
И потомъ трикроть бiйся в перси зъ скрухою сердечною, мовъ.
Бже милостивъ буди мнѣ грѣшному.
Бже очисти грѣхи моя и помилуй мя.
Безчисла согрѣшихъ Гдн҃и прости мя.
И заразъ нимъ почнется Стая Литургiя, мов тую Млтву зъ скрухою сердечною.
Млтва пре зачатiемъ Стыя Литургiи.
Гдн Іс Хе, иже еси щедръ и млтивъ всѣмъ призывающимъ тя истинно, тебѣ молюся, и тебѣ милося дѣю, спо
Д добѣ

*Поўустаў 1695 г. Пачатак «Маліт пры святой літургіі»*

розуму людъского, тело на себе принял, як весело Аггелы при нароженю Христовом спевали: як з людми Христос збавитель жил, и як для нас умерл. Розмышляючи зась спевай з хором або читай тую песнь на Шестом Соборе противко теопасхитом, албо треклятым арменом зложеную.

Слава Отцу, и Сыну, и Святому Духу, и ныне и присно, и во веки веком, Аминь. Единородный Сыне, Слове Божій, безсмертный сый изволивый спасенія нашего ради воплотитися от святыя Богородица и присно Девы Марія: непреложно вочеловечивыйся. Распныйся Христе Боже: смертію смерть поправый. Един сый Святыя Троица, спрославляемый Отцу и Святому Духу спаси нас.

Ґды блаженна хор читает албо спевает, и ты оные читай, Смотри выше на Карте 101. А приводи себе на память, и розмышляй до як великих благословенств нас приводять цноты и выполнене Приказаній Божіих, як до того великіе заплаты в небе справило присте Христово, волю его полнячим и его наследуючим. Тут же проси, абы дал и тебе ласку свою до выполненя воли его, мовячи тую молитву:

Молитва егда блаженна чтутъся.

Господи Іисусе Христе Боже наш, предавый сам спасительная твоя повеленія и заповеди, и тех исполненіем блаженства небеснаго воспріятія всем любящим ты обещавый: смиренно молю тя, да и мене недостойнаго и лениваго раба твоего, благодати твоея трезвеніем и бодростію, к действительному тех сполненію, возставиши, грехов моих мглу разганяя: и сподоби мя части блаженных в царствіи небесном, со благоугодившими тебе воспріяти: молитвами пречистыя ти Матере и всех святых, Аминь.

Ґды зась по Блаженных Священник малую процесію, албо вход з Евангеліем, тихо идучи чинит, а входячи до Олтаря мовит: Премудрость прости. Положи на себе знак Креста святаго и поклонися. А тут зараз розмышляй и на память себе приводи, як присте Збавителя нашего на тот свет, и детинство его в молчанію было, аж до Іоанна Крестителя, который его палцем указал, мовячи: Ото тот ест Баранок Божій, который гладит грехи всего света. И присте его на тот свет людем сведчил. Розмышляй теж и то тут же, яко Пан от Іоанна во Іордане окрестившися, Науку свою Бозскую людем проповедати почал. И набожне мов тую молитву:

Молитва на входе со Евангеліем, егда Діякон, или Священник глаголет: Премудрость прости.

Господи Іисусе Христе Боже наш, иже вход со святым твоим евангеліем, мене грешнаго ныне видети сподобивый, возри на мя человеколюбче, и умилосердися, яко да поминаяй святыя твоя заповеди, право сохраняю я, и достоине воспою. Пріидете поклонемся, и припадем ко Христу. Спаси нас Сыне Божій, воскресый из мертвых, поющих ти, Аллилуя.

Ґды зась зачинают спевати Святый Боже: Розмышляй, як великая радость была на небе Аггелом, ґды през науку збавителеву до поедняняся з Богом, и до познаня его в Троици святой славимаго люде приходити почали. И як за тое славили песнми всесвятую и нераздельную Троицу, як и тепер радуются и славят Бога з наверненяся нас грешных. Припоминай теж и волане Отцов святых в аде бывших, з якою горачостю до Бога было, ґды от святого Симеона Богопріимца, от Іоанна Крестителя и от инших святых, о пристю Панском доведали. И набожне моз тую молитву:

Господи Боже вседержителю, приемляй от небесных твоих сил трисвятую песнь, пріими и от мене недостоинаго раба твоего имя рек: трисвятое пеніе: и даждь ми вся лета живота моего и на всяк час без греха тебе славу возсылати, Отцу и Сыну и Святому Духу, ныне и присно, и во веки веком, Аминь.

А потом, ним Прокимен проспевают. Читай тую Молитву, розмышляючи, иж все фиґуры, таемницы, обряды, и пророцтва старозаконные, которые слабые до збавеня, и тенем пришлых евангелских таемниц были, и до Іоанна Крестителя толко трвали. А ґды Збавитель наш пришол, Апостолов святых выбрал, для збавеня нашего, для проповеди Евангеліи на весь свет послал, и през них людей до познаня своей правды приводил.

Молитва пред чтеніем Апостола.

Сподоби мя Господи, любезне и достойне слышати Апостол твоих благовестіе, благовествующих нам мир, благовествующих добрая. И явленіем словес твоих, да просветитъся и вразумится дух мой, Аминь.

Затым слухай з пилностю читаня Апостола, а по Апостоле ґды спевати починают Аллилуія, зараз читай тую молитву: размышляючи, як великая радость бывает на небе Аггелом, з наверненя людій, до познаня Бога и правды его, през збавенную от святых Апостолов розсеянную евангелскую веселую науку.

Молитва по скончаніи Апостола, ґды спевают Аллилуія.

Тебе хвалу возсылаюче, пресвятая и неразделимая Троице: Отче и Сыне и Душе святый, поем вси, Аллилуія. И молимтися, исцели вся недуги наша, душевныя и телесныя, да здрави суще поем тебе Богу нашему, Аллилуія. Троице пресущественная, и пребожественная, и предобрая, христіяном дателю премудрости. Исправи нас, да достойно хвалящe тя, поем, Аллилуія. Троице живоначальная Господи Боже наш: избави нас смерти вечныя, и сподоби со всеми праведными пети тебе, Аллилуія. Троице долготерпеливая, и многомилостивая, дажд грехом нашим оставление, даруй живот вечный, да поем ти во веки Аллилуія.

Слухай потым пильне з великим набоженством и уваженем читаня Святого Евангелія: розмышляючи, якіе Пан і Збавитель наш працы и фатиґи подыймовал, уставичныи казаня и науки збавенные до людей чинячи, и як з людми тут живучи з себе самого им приклад до всех цнот и побожностіи подавал. По евангеліи зась поклонившисе набожне мов з хором: Слава тебе Господи. И зараз читай тую молитву:

Молитва по евангеліи.

Слава тебе господи цару Сыне Бога живаго, иже глагол святаго твоего евангелія слышати мене недостойнаго сподобивый. Сим Владычним твоим гласом укрепи мене во обращеніи и покаяніи препровождати нощ настоящія жизни, от всякаго избавляяй мя навета, и злобы, видимых и невидимых враг. Ты бо еси един силный и царствуяй во веки, Аминь.

А потом слухай ектеніи которые Іерей, албо Діякон отправуют, и розмышляй чуда розные збавителевы, которые он будучи на земли чинил през лет полъчварта.

*(Далей будзе)*

---

*а. Фэлікс Журня*

# Як моладзь уяўляе Бога?

На першы погляд здавалася-б, што дзеці, а пасьля моладзь так пазнаюць Бога, як іх навучаюць, дык залежна ад веку і здольнасьці іх паняцьце Бога ёсьць больш або менш дакладнае і багатае. Аднак-жа іншыя фактары адыгрываюць сваю ролю ў фармацыі іх паняцьця аб Богу. На першым месцы тут зьяўляецца адменная псыхіка хлопцаў і дзяўчат: гэтыя і тыя інакш адчуваюць Бога, хоць карыстаюцьца тымі самымі падручнікамі і лекцыямі.

Нядаўна ў Францыі была праведзена анкета сярод двух тысячаў школьнікаў пачатковай і сярэдняй адукацыі і сярод акадэмікаў — у веку 13—20 гадоў. Анкету правёў Цэнтр Пошукаў па Рэлігійнай Пэдагогіі ў Ліёне. Супрацоўнічала ў гэтым Дырэкцыя Рэлігійнага Навучаньня ў гор. Ліёне. Аналізу праведзенай анкеты апрацаваў у сваей кнізе («Бог і Моладзь»), французскі сьвятар Рьер Бабэн. Ягоная кніжка нядаўна перакладзена на ангельскую мову ў Лёндане.

Аналіза гэтае анкеты выказвае, што дзеці ў 12—13 гадох маюць паняцьце Бога, створанае на аснове навучаньня рэлігіі ў школе і дома. Для іх Бог — гэта ёсьць істота, якая мае добрыя прыметы іхніх бацькоў, але ў найвышэйшай ступені. Бог, значыць, усё ведае, усё можа і бароніць ад усялякага зла. Словам, Бог ёсьць найлепшы Бацька-Айцец! І наагул дзеці паўтараюць у анкеце тое, што напісана ў катахізмоўцы і не маюць больш ніякіх пытаньняў ці сумніваў пра Бога.

У наступным этапе веку (ў г. 14—16), у пачатках юнацтва, паняцьце Бога становіцца разнаякім у хлапцоў і ў дзяўчатак: тут праяўляецца больш асабістага перажываньня.

У дзяўчат фармаваньне ідэі Бога ідзе па лініі іх жаночай псыхікі, характару ды імкненьня да самаадданай любові. Часта ў іх трапляюцца адказы такога зьместу: «Бог ёсьць Айцом, які пажадае нашага шчасьця». Або: «Бог — мой абаронца-апякун, Даверaная Асоба». Або: «Я хацела-б Бога бачаць, Яго адчуваць і любіць». Для дзяўчат Бог зьяўляецца істотай больш канкрэтнай з бліжэйшымі ўзаемнымі адносінамі. Бачым у такім уяўленьні Бога нейкі нахіл прадстаўляць Яго на падабенства бесканечна дасканалага чалавека.

Юнак-хлапец уяўляе Бога больш абстрактна, разумова і бачыць у Бога ўсё найлепшае: справядлівасьць, дабрату, прыгожасьць ... Называе Бога спосабам абстрактным, кажучы: «Бог ёсьць Справядлівасьць, Любоў, Дабрата». Таму імкнецца да Бога; да Бога, як да найвышэйшага ідэалу, рэалізуючы такія прыметы ў сябе — на ме-

ру людзкіх магчымасьцяў. Падобны мамэнт ідэалізацыі праяўляецца ў ягонай першай любові да дзяўчыны: стварае яе ідэал, думае пра яе, уяўляе і мроіць у жывых вобразах, нават часам піша лісты фантазыйнай дзяўчыне, якой няма ў сапраўднасьці...

Але такое паняцьце аб Богу, хоць бывае творана паводле патрэбы людзкое натуры, ня ёсьць дасканалае і спрычыняе неадпаведныя адносіны чалавека да Бога. Для прыкладу, жанчына, разумеючы Бога пачуцьцёва, занадта па людзку, ідучы за сваей псыхічнай патрэбай, забываецца, што Бог ёсьць Духам: калі-ж не адчувае Яго ў зьменных пачуцьцях, або не спаўняюцца ейныя людзкія пажаданьні, дык яна траціць цярплівасьць, нэрвуецца і можа захістацца ў веры.

Юнак можа таксама ўвайсьці ў крызыс веры на аснове ягонага занадта абстракцыйнага паняцьця Бога. Мужчына забываецца, што Бог ня толькі ёсьць Духам, які нас перавысшае бесканечна, але ёсьць Асобай — добрым Айцом, які памагае ў канкрэтных выпадках, якога трэба прасіць-маліцца, перапрашаць-пакутаваць, трэба Яму дзякаваць і выхваляць. Вось-жа мужчына лягчэй пакідае малітву, надзеючысь на свае сілы і можа зусім страціць веру ў непаводзінах або з іншых прычынаў, ці проста праз занядбаньне...

Дзеля таго Бог парасьцярагае чалавека перад паняцьцем вылучна людзкім, з натуры ўзятым. Кажа Ён: «Мае думкі ня ёсьць вашыя, ані вашыя як мае».

Таму Бог Сам аб'явіўся людзям, а ў Новым Запавеце стаўся Чалавекам, сапраўдным Божым Сынам і навучыў людзей аб Сабе і аб сваіх запаведзях. А нам трэба карыстаць з гэтага аб'яўленьня: трэба пазнаваць Бога паводле Эвангелля і навукі Царквы. І вельмі важная справа памагаць дзецям і моладзі ў фармаваньні паняцьця аб Богу пры помачы Сьвятога Пісьма і навукі Хрыстовай Царквы, якая з паручэньня Самога Хрыста аўтэнтычна высьсьняе праўды веры. Гэтым чынам паняцьце аб Богу становіцца праўдзівым і камплетным і будзе памагаць у разьвіцьці нашае веры і ў вытрываньні ў ёй падчас спакусаў і жыцьцёвых спробаў.

---

*Юрка Віцьбіч*

# Там, дзе Дзьвіна уцякла ад Дняпра

У маёй аповесьці «Ціхая Руба», якой распачаўся ў 1932 годзе № І новага й адзінага тады літаратурнага часапісу «Полымя Рэвалюцыі», стары плытагон Самусь Галабурда гэтак пераказвае народнае паданьне: «І адпусьціў дзед Дняпро з Вокаўскага Лесу, рыхтуючыся ў пуціну, сваю маладуху Дзьвіну, каб яна, сабраўшы патаемныя воды прыбочныя, потым уліла іх у Дняпро і разам з чалавекам пабегла да цёплага поўдню. Але Дьвіна, падхапіўшы ў сваёй пагулянцы Вялісу й Валкоту, Мяжу й Таропу, Усьвячу й Касплю, Лучосу й Віцьбу, адчула сваю моц і пад Бяшанковічамі пабегла ад старога мужыка на ўцёкі ў зусім іншы бок — да мора Балтыцкага, бурштыновага».

Так, запраўды там, дзе Дзьвіна амаль пад простым кутом мяняе свой ранейшы паўднёва-заходні напрамак на паўночна-заходні, ляжыць на ўзвышшы ейнага стромкага левага берагу мястэчка Бяшанковічы. Згадваецца яно ўпяршыню ў гісторыі ў 1447 годзе калі кароль Казімер Чацьверты ў падзяку за тое, што на Ільлін дзень танула, але цудам выратавалася каралева загадаў пабудаваць тут, дзе мелася ўжо значнае селішча, царкву на ймя прарока Ільлі. Аб колішнім дабрабыце Бляшанковічаў сьветчыць тое, што падканцлер Вялікага Княства Літоўскага князь Казімер-Леў Сапега выклапатаў для іх у 1634 годзе ў караля Ўладыслава Чацьвертага Магдэбурскае права, паводля якога ў іх пазьней штогод адбываўся вялікі Пятрапаўлаўскі кірмаш, вядомы па ўсей Беларусі.

Пасьля ад Сапегаў мястэчка перайшло да Віленскага ваяводы князя Казімера Агінскага, а потым валодалі ім графы Храптовічы-Буценявы, што мелі сваю рэзыдэнцыю ў Шчарсох на Навааградчыне. Дзякуючы іхнім сродкам на вялікай плошчы мястэчка зьявіўся мураваны гандлёвы двор з 60 крамамі, а бадай усе ягоныя вуліцы забрукавалі. Чыгункі амінулі Бяшанковічы, але мелася ў іх людная параходная прыстань. У часе Другое сусьветнае вайны на Бяшанковічы прыпаў галоўны ўдар 43 савецкай арміі, што меў на мэце абкружыць пад Віцебскам нямецкія дывізіі. І пэўне тады, а магчыма й па вайне, зьнікнуў гістарычны помнік, бо аб ім у сучасным тамтэйшым друку няма нідзе прыпаміну. А можа ён і захаваўся, але ня ўважаецца за патрэбнае ўзяць яго пад дзяржаўную ахову.

На ўскрайне Бяшанковічаў, пасярод прыгожага старога парку, знаходзіўся мураваны двохпавярховы дом з двомя аднапавярховы-

мі крыламі, пабудаваны ў канцы 17 стагодзьдзя князем Агінскім. Бяз сумлеву ён меў калісьці багатае вонкавае дэкаратыўнае ўбранства, ад якога ў выснаве шматлікіх пераробкаў засталіся толькі вузорная чыгунная агарожа балькону ды сандрыкі над вокнамі ніжняга паверху. Будынак зь цягам часу згубіў сваё значэньне, як архітэктурны помнік, але цалкам перахаваў гістарычнае. Як сьветчыць Н. Рабінін у 2 томе «Полоцко-Витебской Старины» на гэтым самым доме вісела мармуровая мэмарыяльная дошка аб тым, што ў ім за розныя часы спыняліся Пётра Першы, Напалеон Банапарт і Александар Першы. У 20-х гадох, калі ў будынак перайшла савецкая школа-сямігодка, дошка зьнікла.



*Дом, у якім прабывалі тры цары, у Башанковічах*

Пётра Першы быў тут у часе Паўночнае вайны тройчы. У 1701 годзе па дарозе з Масквы ў Біржу, дзе меў спатканьне з польскім каралём Аўгустам Другім, у 1705, накіроўваючыся Дзьвіной да Полацка, у якім знаходзілася галоўная кватэра ягонае арміі і амаль увесь сакавік 1708, калі ён склікаў тут вайсковую расейска-польскую нараду. Між іншым, менавіта сюды прыбыў з даносам ад Качубея на гэтмана Мазэпу той зухаваты казак, якому А. Пушкін прысьвяціў прачулыя радкі ў сваёй паэме «Палтава». Дарэчы, ці наўрад знойдзецца ў сусьветнай літаратуры яшчэ адзін прыклад такога высокамастацкага адбіцьця вернападданіцкага бруднага даносу.

У ліпені 1812 году ў гэтым доме тры дні пражыў Напалеон Банапарт. Спакінуўшы ў Бяшанковічах і іхняе ваколічнасьці корпус маршала Сэн-Сіра, ён разам з італійскім віцэ-каралём Эўгеніям Багарнэ і неапалітанскім каралём Ёахімам Мюратам адбыў да Віцебску. Паводля сьветчаньня 9 тома «России» тут яшчэ ў пачатку нашага стагодзьдзя перахоўваўся з усім тагочасным абсталяваньнем той пакой, які паслужыўся яму спальней. І ўрэшце ў 1821 годзе ў тым жа доме затрымаўся Александар Першы, які пасьля манэўраў прыймаў у Бяшанковічах парад гвардзейскага корпусу. У адзнаку гэтага граф Храптовіч-Буценеяў пабудаваў адмысловы помнік, які разбурылі ў 1932 годзе камсамольцы.

Гістарычны дом абкружаюць стогадовыя дубы й ліпы. Цешыць, што, паводля артыкулу Г. Маргайліка «Лясныя волаты» у «Літаратура і мастацтва» ад 23 сяголетняга студзеня, дагэтуль узвышаецца над імі старэйшы ад іх магутны дуб Напалеона, пад якім ён назіраў за пераправай праз Дзьвіну корпуса Мон-Брунэ. Яшчэ навуковая экспедыцыя 1939 году, якую мне давялося ачольваць, узяла гэты дуб пад дзяржаўную ахову з чаго тады, між іншым, вельмі зьдзівіўся старшыня тутэйшага райвыканкому Іван Раманавіч Прытычэнка, які прызначаў яго для патрэбаў мясцовага прамкамбіната.

Акрамя гістарычнага дому й старога парку заслугоўвае ўвагі вал маршала Сэн-Сіра, які знаходзіцца ў правабярэжнай частцы Бяшанковічаў, вядомых пад назовам Стрэлкі. Корпус гэтага маршала складаўся амаль цалкам з падбітых тыфусам і дызынтэрыяй баварцаў, якія, як пагардліва сьцьвярджаюць у сваіх мэмуарах французы, пыталіся адзін у аднаго:



*Абаронны вал маршала Сэн-Сіра ля Дзьвіны*

— Дзе тут дом для тых хто памірае?

У запраўднасьці вал, пабудаваны імі для абароны ад корпуса Вітгенштэйна пераправы праз Дьвіну цягнецца больш чым на кіламетр, маючы ў вышыню ад 3-х да 5-ці мэтраў і на тыя часы зьяўляўся паважным вайсковым умацаваньнем.

Ня захаваліся ў Бяшанковічах старадаўнія драўляныя цэрквы й сынагога, якія зьяўля-

ліся выдатнымі архітэктурнымі помнікамі. Найбольш цікавая зь іх Мікалаеўская, пабудаваная ў канцы 17 стагодзьдзя, была, як з жалем згадвае ў I томе «Полоцко-Витебской Старины» вядомы краязнаўца сьвятар Міхаіл Красавіцкі, нягледзячы на абарону яе слынным навукоўцам А. Нікіфароўскім, разбурана з дазволу кансысторскіх урадоўцаў. Сынагога згарэла ў 30-х гадох пры таемных акалічнасьцях. Амэрыканскія жыды з нараджэнцаў Бяшанковічаў дапамагалі сваім землякам аднавіць сынагогу, чему мясцовыя ўлады зусім ня супрацьдзейнічалі, бо адразу па адбудове адабралі яе ад вернікаў, прыстасаваўшы пад клюб. І ўсё-ж характарна, што менавіта зь Бяшкановічаў, зь іхняе Стрэлкі, паходзіць «Беларускі Левітан» — знаны мастак С. Юдовін. Жыд па нацыянальнасьці, ён у сваіх выдатных гравюрах зь вялікім пачуцьцём стылю й кампазыцыі, а найгалоўнае з шчырай любоўю адлюстраваў старадаўнія цэрквы й касьцёлы, капліцы й прыдарожныя крыжы, курганы й руіны замкаў, у якіх адбілася ўся прыгажосьць старой Беларусі.

---

## З царкоўнага жыцьця

### ПАСЬЛЯ САБОРУ — НЕСПАКОЙНЫ ЧАС

У сваей апошняй прамове Папа Павал VI назваў цяперашні час пасьля Сабору — часам буры і пераходнасьці. Некаторыя, казаў Папа, спасылаючыся на Сабор, хацелі-бы стварыць зусім новую Царкву і адарвацца ад сваей прошласьці. А іншыя баяцца ўсяго новага, каб не нарушыць традыцыі і гамоняць, што Царква задалёка адыйшла ад сваей асновы. Адным словам, кажа Папа, што «Сабор ня прынёс супакою, але клопаты і цяжкія праблемы». Аднак так быць павінна. І дзіця, пакуль расьце, мусіць пераменяць сваю адзежыну амаль з кожным годам, аднак астаецца тымсамым чалавекам. Значыць, не маюць рацыі ані кансэрватысты, калі ня прызнаюць рэформы ў Царкве, ані прогрэсісты, калі зусім адкідаюць ці агранічваюць усялякія рэформы! — Дык цяперашні час — гэта час непакою, няпэўнасьці, сумніваў, але і добрае волі, дый надзеі, дый любові да Бога і людзей. Царква ўзрастае і грунтуецца ў веры, бо гэта ёсьць проба веры, надзеі і любові.

*

### ВІЗЫТА КАНЦЛЕРА БРАНДТА Ў ВАТЫКАНЕ Ў ПАЧАТКУ ЛІПНЯ 1970 Г.

У размове з Папай была меркавана справа супакою на сьвеце і праблема польскай царкоўнай адміністрацыі на бышых нямецкіх землях, якія адыйшлі да Польшчы. Пакуль што стан адміністрацыі ёсьць часовы, але польскі ўрад і біскупы дамагаюцца, каб Ватыкан прызнаў канчаткова рэгулярны парадак на тых землях. Аднак Папа — паводле традыцыі — назначае туды часовую духоўную адміністрацыю, пакуль няма ўсталеных граніц заходніх тых земляў. Калі цяпер Нямеччына прызнала ўсе фактычныя граніцы (у дагаворы з Саветамі), дык справа набірае пэўнасьці і мусіць нядоўга чакаць рэгуляцыі і ў духоўным кіравецтве тых земляў.

*

### СЫНОД БІСКУПАЎ УВАХОДЗІЦЬ У ЖЫЦЬЦЁ ЦАРКВЫ

Паводле заявы кардынала Марті, прэзэса Сыноду, гэтыя Сыноды будуць зьбірацца на даўжэйшы час, каб лепш увайсьці ў праблемы Царквы. А вынікі галасаваньня будуць падавацца яшчэ перад канцом сэсіяў да публічнага ведама.

*

### ТРЭБА ГЛЯНУЦЬ НА ЛЮТАРА З ДРУГОГА БОКУ

На Сусьветнай ФЭДЭРАЦЫІ ЛЮТЭРАН 25. VII. 1970 кард. Віллебранс сказаў, што трэба аддаць справядлівасьць Лютару. Да гэтага часу каталікі яго толькі асуджалі, але мусімо паказваць і ўсе добрае. Паводле ведамага тэалёга Кангара Лютар быў глыбока рэлігійным чалавекам і шукаў месца для сьв. Пісьма ў жыцьці хрысьціян, дый хацеў зрабіць сьв. Пісьмо цэнтрам жыцьця Царквы. І якраз II Ватыканскі Сабор гэтае прызнаў, толькі з большай развагай і ў дасканалейшы спосаб. Належнае зразуменьне навукі Лютара паможа каталіком і пратэстантам прыйсьці да паеднаньня.

*

### БІСКУП ЗВОЛЬНЕНЫ З КІТАЙСКАЙ ТУРМЫ

Эдвард Волш, амэрыканец, кат. біскуп, выйшаў на свабоду. У Кітаі прабываў ад 1918 году, а ў турме 18 гадоў! (1952—1970). Цяпер ён вельмі аслаблены, але моцны духам. Павал VI прыняў яго сардэчна, дзякаваў за вернасьць Царкве.

«Твае цярпеньні, казаў Папа, ведамы Богу і выдадуць плён».

Карэспандэнтам біскуп Волш сказаў, што чуецца, як рыба выкінутая на пясок. Аб Саборы і аб сьмерці Яна XXIII ён нічога ня ведаў. Хоць дзівіўся з усіх зьменаў у Царкве, але бачыць у гэтым належны і вялікі поступ і радуецца. Адносна будучыні рэлігіі ў Кітаі ён поўны аптымізму і верыць у адраджэньне. Трэба прызнаць, што ўрад увёў і нямала карыснага ў жыцьці кітайскага народу, як раўнапраўнасьць жанчын, роўнасьць расаў і забарону распусты ды іншых праяваў немаральнасьці. Аднак абмежаваньне свабоды чалавека там вельмі балючае. Перад рэвалюцыяй было ў Кітаі больш пяці мільёнаў каталікоў. Цяпер яшчэ значная колькасьць біскупаў, святароў і сьвецкіх людзей мучацца ў турмах за рэлігійныя перакананьні.

*

ЮГАСЛАВІЯ: Выдатны вучоны, камуніст, прафэсар Эссад Ціма ў прэлекцыі на унівэрсытэце ў Загрэбе выявіў, што пагляд Леніна на рэлігію стаўся цяпер зусім неактуальны. Праз столькі часу так шмат зьменаў прайшло на сьвеце і ў Царкве, што каталікі мала адрожніваюцца ад камуністаў у сацыяльных паглядах. А Царква таксама асуджае пахібы капіталізму і змагаецца з несправядлівасьцяй.

*

МАДЗЯРШЧЫНА: У гэтым годзе сьвяткуецца тут 1000 год прыняцьця хрысьціянства. Папа выслаў да каталікоў спэцыяльнае пасланьне. (Тут 6 мільёнаў кат.). Заклікае да вытрываласьці ў веры, якая астаецца той самай — старой і новай — міма зьменаў у сьвеце. Асьцерагае, каб не ўважалі веру за штосьці неактуальнае на цяперші час: Бог — вечны і вера ў Яго мусіць быць напахіснай!

*

ІНДЫЯ: Прагрымела справа законьніцаў-манашак, якіх быццам каталікі куплялі і высылалі на Захад у кляштары. Такая плётка падхопленая газэтамі, стала сэнсацыяй. Але біскупы ў Індыі праявілі сьціслае дазнаньне і выяснілі, што сапраўды каталіцкія арганізацыі высылалі на Захад кандыдатак у кляштары, але пры гэтым ня было ніякага прымусу і тымбольш куплі-прадажы. Калі-ж мо' здараліся якія непаразуменьні, дык заўсёды ёсьць магчымасьць вярнуцца назад тым, якія там дабравольна прабываюць.

*

РЫМ—ІТАЛІЯ: «ФАО» — арганізацыя АГРАКУЛЬТУРЫ ёсьць сэкцыяй Аб'еднаных Нацыяў і месьціцца ў Рыме: сёлета абходзіць 25 гадоў свайго існаваньня. Павал VI мае адведаць іх 18 лістапада. Там мае сказаць прамову на сабраньні да дэлегатаў 20-ці нацыяў, якія належаць да ФАО. Гэта будзе ўжо 3-яя сустрэча Папы з Аб'едн. Нацыямі: 1-ая была ў 1967 ў Амэрыцы, 2-ая — 1969 ў Швайцарыі — ў Жэнэве, 3-ая — будучая ў Рыме.

*

ПАМЁР НАЙСТАРЭЙШЫ КАРДЫНАЛ — ПІЦЦАРДО, меў 93 гады. Працаваў найбольш пры Ватыканскай Курыі: быў прадстаўніком на міжнароднай канфэрэнцыі ў Рапаллё ў 1922, пры дагаворы з Муссолінім у 1929 і меў 6 папаў. Павал VI скаазў пра яго, што пакінуў добры прыклад цяжкой, энэргічнай працы для дабра Царквы.

*

ЮГАСЛАВІЯ: 14 жніўня г.г. былі наладжаныя поўныя адносіны між Ватыканам і Югаславіяй і прадстаўнікі атрымалі тытул амбасадараў. Да гэтага часу абодвы бакі мелі ўзаемныя місіі. Апрача Кубы Югаславія зьяўляецца адзінай камуністычнай дзяржавай, якая наладзіла з Ватыканам нармальныя адносіны. З гэтай нагоды Папа выявіў у прамове сваю радасьць і адзначыў, што Царква не жадае прывілеяў, але толькі свабоды ў сваей рэлігійнай дзейнасьці і сапраўднай свабоды для вернікаў.

*

НОВЫ ПРАДСТАЎНІК АНГЛІІ ПРЫ ВАТЫКАНЕ, М-р Дэсмонд Кравлей. Прадстаўляючы Папе свае паперы-дакуманты, ён выявіў сваё прызнаньне для дзейнасьці Папы для справы сусьветнага супакою і для ягонай руплівасьці пра бедных. Павал VI ў адказе высказаў надзею, што прылучэньне Англіі да Супольнага Рынку ўзмацуе ўсю Эўропу і паможа нясьці помач убогім краінам на іншых кантынэнтах. І выявіў сваё здаваленьне, што сувязь Каталіцкае Царквы з Англіканскай штораз больш паглыбляецца.

*

### БІСКУПЫ Ў ГІШПАНІІ БАРОНЯЦЬ РАБОТНІКАЎ

Нядаўна ў Гішпаніі ў гор. Грэнада адбыліся гвалтоўныя дэманстрацыі, у якіх пры змаганьні з паліцыяй былі забітыя і раненыя. Урад абвініў некаторых духоўных, што подбурылі работнікаў, якія бунтаваліся супраць лішне нізкай зарплаты. Біскупы ў супольнай адозве высказалі свае труднасьці: з аднаго боку Царква мае абавязак падтрымліваць урад і ўрадоўцаў у іх грамадзкай працы; але ізноў-жа Царква мусіць

бараніць бяднейшы народ ад крыўды і несправядлівасьці, а ў гэтым вінаваты ўрад. Спаўняючы свае абавязкі, біскупы выступаюць супраць капіталістаў, а ўрадоўцы іх вінавацяць, што схіляюцца на старану камунізму . . .

*

АФРЫКА — «СВЯТАР НА ШТОДЗЕНЬ»: Рэлігійнае жыцьцё ў Афрыцы значна паглыбляецца. Нядаўна ў Замбіі ў гор. Люсака адбылася Канфэрэнцыя біскупаў Усходняе Афрыкі з удзелам сьвятароў, законьнікаў і сьвецкіх — пад кіраўніцтвам чорнага кард. Ругамбва. Вялікую ўвагу зьвярнулі на праблему сьвятара ў жыцьці на афрыканскім грунце, каб дастасавацца да вымогаў народаў і іх мясцовай культуры. На дзіва, Афрыка адмаўляецца ад асобных дыяканаў, бо нямала функцыяў дыякана могуць спаўняць сьвецкія людзі, каб аблягчыць працу сьвятароў. — І яшчэ адбылася Канфэрэнцыя біскупаў цэлай Афрыкі ў гор. Абіджане. Быў прысутны прадстаўнік ад Ватыкану і пратэстанскія абсэрватары. Зьвернена ўвага на катэхістаў, сьвецкіх настаўнікаў рэлігіі. Разважалі фінансовыя труднасьці, як утрымаць школы, духавенства, сэмінарыі і інш. Рэформа Літургіі, разьдзел працы сьвятара і сьвецкіх памацнікоў і нямала інш. трудных пытаньняў і патрэбаў. — Адным словам маладая афрыканская Царква прычыняе вялікую радасьць і надзею ўсей Царкве ўсяго сьвету!

---

## *З лістоў у рэдакцыю*

КАЛІФОРНІЯ:

Паважаны і Дарагі а. Рэдактар!

Нарэшце ізноў я сабраў сілы, каб напісаць да Вас. Верце, што і тут нашае жыцьцё ня лёгкае! Жонка ўвесь час працуе і часта надлічбовыя гадзіны. Увесь час стараемся памагаць сваім. І ўрэшце — грамадзкая нагрузка. Таму і цяжка і немагчыма быць у парадку з усім і з усімі. Зарабляем мала і часта грошаў няма на паштовыя маркі. Жыцьце вядзём скромнае; хочацца аднак падтрымаць хоць крыху і сваё роднае — ў меру сілаў і магчымасьці. А тэмпы амэрыканскага жыцьця тармозяць і гэта.

Жонка выслала Вам $ 5.00 у пісьме на час. «Божым Шляхам» і $ 10.00 за кніжкі і здымкі. На жаль, ня было ад Вас адказу. Ці далей можна прысылаць проста ў пісьме, бо так высыланыя грошы ў другія месцы не прападалі? — Нашых сьвядомых людзей тут нямнога і ўсе раскінутыя. Сувязь ня лёгкая і каштуе грошаў. Людзі страшэнна занятыя сваім прыватным жыцьцём і ў даўгох. Некаторыя мусяць пераносіць і мацнейшыя ўдары-няшчасьця або хваробы і аўтамабільныя выпадкі. Ясна, што ўмовы жыцьця дзеюць па рознаму. Людзям нават цяжка чытаць: стомленыя працай ды інш. Дзеці не атрымліваюць белар. ўзгадаваньня і не гавораць па свойому. Ды і нам цяжка вучыць дзяцей роднай мовы, але мы хоць гаворым з імі дома па беларуску.

Усім Вам і ўсім, што з Вамі, пасылаем найлепшыя пажаданьні! Будзем старацца падтрымаць Вас і вашую дзейнасьць у будучыні. — Памажы Вам, Божа!

Вашыя Ч. Ю. Н.

*

ЛЁНДАН.

— УВАГА РЭДАКЦЫІ: Мы атрымалі асаблівы ліст без падпісу, на які (дзеля перасьцярогі) даём адказ. Найперш кусок з гэтага пісьма: «Вянок Сьвяціцеля Антона» . . . «Сьвяціцель Антон, маліся за нашы душы, за нашае шчасьце; дай нам мір, выпрасі нам багаславенства і ў Бога здароўе для ўсей нашай сям'і, для нашых знаёмых і няшчасных! . . »

У гэтай малітве няма нічога дрэннага. Але далей у пісьме ідуць розныя забабонныя прапановы. «перапісаць 13 разоў і разаслаць гэтулькі-ж асобам, не падпісваючы сваей фаміліі, дык на 13-ы дзень будзе табе шчасьце . . . ».

Помню, што на Беларусі здараліся падобныя пісьмы з загадам іх перапісываць і рассылаць. Аднак там трэ было 9 разоў, а тут ужо 13! — Думаем, што 13 разоў таму, што 13-га чэрвеня выпадае ў каталікоў дзень сьв. Антона. — Кожны разумны чалавек убачыць у такой «малітве» чысты прывід і лёгкавернасьць дый ня возьмецца перапісываць, каб атрымаць «шчасьце». Праўда, сьв. Антон меў у нас вялікую пашану і давер, але няма патрэбы прыбегаць у малітве да лішніх забабонных практыкаў; дый каталіцкая і праваслаўная Царква гэта асуджае.

а. Я. Г.

*

ЧЫКАГО:

12 ліпеня сьвятар Францісь Чарняўскі ў нас у Чыкаго адправіў Сьв. Літургію ў нашай мове. Пралат Пётр Татарыновіч прыслаў новы тэкст зацьверджаны ў Рыме. Гэты пераклад Літургіі зроблены вельмі прыгожа. Сама Літургія адбылася сьпяваная. Амэрыканскі сьвятар Язэп Ціроў, ведамы кампазытар, удала падабраў ноты

да грэгорыянскага сьпеву і сам вучыў нашых сьпевакоў, а пасьля іграў на арганах, дырыгуючы сьпевам. Пры Божай помачы ўсе прайшло гарманійна і прыгожа.

Падчас Сьвятой службы аўтар быў уладжаны і прыбраны, як і ўся сьвятыня, цудоўна! Цэлебранс служыў па новаму, зьвернены да народу, на адпаведным падвышшэньні, скуль чыталіся выняткі — лекцыі з Сьвятога Пісьма.

А гадз. 12-ай пачалося набажэнства ўрачыстай працэсіяй: прыслужнік нясе крыж, ідуць айцы Тарасэвічы, а. Урбановіч і ўрэшце паважна і ў пабожным настроі а. Францісь. Народ з энтузіязмам сьпявае — «Мы хочам Бога, Дзева Маці . . .» Юбілята акружаюць нашыя хлопчыкі, міністранты. Сапраўды, гэта гістарычная падзея — Сьвятая Літургія ў роднай мове!

І вось Цэлебранс пачынае: «У ІМЯ АЙЦА І СЫНА І СЬВЯТОГА ДУХА». Народ адказвае: «АМАН». І, як пачалося, так працягваецца да канца — ў нашай роднай мове — аж Сьвятар прагаласіў сьпевам: «Ідзеце ў супакоі: Імша скончана!» Народ адказаў: «БОГУ ХВАЛА!» На прыканцы сьпявалі: «Твая чэсьць, хвала, наш вечны Божа» А ўканцы: «рэлігійныя гімны: «Божа, што калісь народы . . .» і «Магутны Божа . . .»

Пасьля ўсе зыйшліся на банкет ды, як заўсёды бывае, пачаліся прамовы. — Гэты аднак банкет быў надзвычайным дзеля того, што на ўсю Паўночную Амэрыку здарыўся наш гістарычны факт — усё набажэнства ў беларускай мове; а таксама тое, што адпраўляў Божую Службу наш Паважны Юбілят Францісь Чарняўскі ў памятку 50-годзьдзя свайго сьвятарства! Акрамя прамоваў сп. В. Пануцэвіч і а. Янка Тарасэвіч чыталі свае паэматы прызначаныя на гэтую ўрачыстасьць.

Нарэшце адбыліся народныя танцы, быў сьпеў солё і малыя дзяўчаткі ігралі на гітарах «Люблю наш край . . .».

*

АЎСТРАЛІА—АЛЬБАНЫ:

Жыцьцё маё дажываецца: бяссонніца, згрызоты, як і раней. І ўжо даўжэйшы час нічога ня пішу: няма да гэтага добрага грунту. Як няма супакою (гэта павінна ведаць і сама Рэдакцыя!), дык тады не надыходзіць аніякае натхненьне — ніякіх карысных думак: мысьлі рассейваюцца як туман, калі падагрэе сонейка. Дый каб гэтае «сонейка» грэла талкова, а то прыпекае і сушыць.

Датычна нашае Аўстраліі, скажу толькі, што леташняя нашая зіма была сухой, а сёлета былі ліўні цэлымі днямі-начамі. А то, як высахне, дык вецер ганяе пясок, як у нашай Бацькаўшчыне сьнег: наганяе горбы роўна з платамі — аж авечкі не маюць ні травы, ні вады. Фармары прадаюць іх за нішто. К. Ч..

ЛЁНДАН:

Варункі майго жыцьця камплікуюцца і я не патраплю выблутацца з сытуацыі. Генэрал, у якога я жыла, нагла памёр у студні і я мусіла перабрацца ў іншую квартэру: было мне не найлепш, а цяпер і горш таго, бо пачынаю хварэць . . . Расклеілася і я ўся нэрвовая , а сэрца лапоча.

У мяне тут два сыны, але-ж я ім непатрэбная, бо прычыняю ім больш клапатаў. І ўсьцяж стаўлю сабе пытаньні, чаго я прыехала? і нашто старшы сын спрычыніў мой прыезд, каб тут жыць пры чужых людзях? Я-ж адразу зьмеркавала, што гэны генэрал С-іч спалітыкаваў, каб сыны сьцягнулі мяне з Польшчы: я была яму патрэбная — варыць, прыбіраць, абшываць . . . Працавала я, як падзёншчыца, а ён мне даваў два ф. стэрлінгаў у месяц; а сын яму плаціў за мяне 8 фунтаў! Дык проста гневаюся на сябе, што была такая неразумная, каб верыць у любоў дзяцей і такая наіўная, думаючы, што яны па мне надта сумуюць.

Праз вакно бачу вокны другога дому, а ў маім пакоіку ціха: цэлымі днямі не маю з кім загаварыць слоўца; я сталася нейкай дзікою і вечна заплаканая . . .

31. VIII. 1970. З паважаньнем Агнешка П.

(Увага Рэдакцыі: Можа гэты ліст паслужыць для каго добрай перасьцярогай, каб ня шукаць лепшага месца?).

*

ЧЫКАГО

Вось мая маленькая справаздача з вялікае падарожы.

Ляцеў я з Лёндану ў Чыкаго 9 добрых гадзін бяз ніякае астаноўкі, а лёт адбываўся ў памысных умовах: кожны пасажыр мог мець па тры месцы, магчыма, людзі баяліся перахвату самалётаў і таму гэтак нямнога выбралася ў дарогу. Першы раз мяне кантралявалі пры ўваходзе ў ў самалёт, просячы адчыніць партфэль.

У Чыкаго мяне спаткалі Айцы Тарасэвічы, Рамукі, сп. Пануцэвіч і дзеці з кветкамі.

13. IX. 70 адбылася ўрачыстасьць пасьвячэньня прыбудоўкі да царквы Хрыста-Спаса і зара была адслужана сьв. Літургія; а якраз здарыўся дзень Паднясеньня сьв. Крыжа. Служыў Уладыка Чэслаў Сіповіч у саслужэньні Айцоў Тарасэвічаў і ў прысутнасьці кардынала Яна Коді, архібіскупа ў Чыкаго. Сабралася грамада духавенства розных абрадаў і шматлікая колькасьць вернікаў. Пасьля Эвангельля гаварыў казань Уладыка Чэслаў: Эвангельле чыталася па беларуску і па ангельску, а прамова была таксама ў гэтых мовах.

Пасьля прамаўляў кардынал Коді аб сьв. Крыжы дый аб годнасьці і працы Біскупа — з нагоды 10-годзьдзя служэньня ў біскупстве Уладыкі Чэслава.

Пасьля кароткага перапынку ўсе пераехалі ў вялікі рэстаран-салю, дзе быў уладжаны абед і

дзебылі ўручаны падаркі: кардыналу дзьве іконы, Хрыста-Спаса і Багародзіцы і Біскупу Чэславу Сіповічу. Там ізноў-жа прамаўлялі: Кардынал, Біскуп Сіповіч, Айцы Тарасэвічы, сп. Параў праіграў малады наш піяніст сп. Янчэўскі.

Як дзень малітваў, так і ўсё прыняцьце, прамовы і мастацкія выступленьні — ўсё прайшло вельмі ўдала і сымпатычна. Кард. Я. Коді нагаварыў даволі камплімэнтаў у адрас беларусаў у Чыкаго.



*Пасьвячэньне будынкау Царквы Хрыста-Спаса*



*Беларускія дзяучаткі танцуюць «Лявоніху»*

нуцэвіч і амэрыканцы, прыяцелі беларусаў. Дзеці пад кіравецтвам сп-ні Рамук паказалі розныя танцы, сярод каторых найбольш удалай, ведама, была «Лявоніха».

Было солё: сп-ня Градэ і сп-ня Рамук. Акампаньямант — а. Сіроў. Пару музыкальных тво-

Кардынала спатыкалі спадар і спадарыня Чарнэцкія з хлебам-сольлю, а праводзілі ўсе госьці вельмі ўрачыста і сардэчна.

*Прысутны*

---

# З беларускага жыцьця

**Уладыка Часлаў у Амэрыцы**

Уладыка Часлаў Сіповіч вылецеў у пятніцу 11 верасьня ў Амэрыку, дзе ён мае намер адведаць беларускія асяродкі ў Чыкага, Нью Ёрку і іншых мясцовасьцях.



*Найменшыя ў нас — 1970 г. верасень*

**Новы беларускі матурыст**

У чэрвені г.г. вучань Школы сьв. Кірыла Тураўскага Мікола Смаль здаў на Лёнданскім унівэрсытэце матуральны эгзамін з беларускай мовы. Рэдакцыя «Божым Шляхам» жадае абсальвэнту далейшых посьпехаў у навуцы.

**Новыя экзаміны з беларускай мовы.**

**Ангельскі Інстытут Лінгвістаў увёў у гэтым годзе экзаміны з беларускай мовы. Інстытут праводзіць экзаміны на ўсіх узроўнях — ад элемэнтарнага да дыплёмнага.**

---

Паважаны Айцец Рэдактар,

У мінулым нумары «Божым Шляхам» (№ 3, 1970) на стар. 18 успамінаецца маё прозьвішча, быццам я і сп. Цытовіч адчыталі і ўдакладнілі надрукаваны ў беларускім перакладзе сьпісак каталіцкіх цэркваў ў Пінскай благачыніі з 1832 г. Хоць гэты дакумант мне ведамы, я ня браў ніякага ўдзелу ў падрыхтоўцы яго да публікацыі і таму не магу браць адказнасьці за шматлікія памылкі, якія там знаходзяцца. Маё прозьвішча было памешчанае без майго ведама.

Не адмоўце памясьціць гэтае спраставаньне ў Вашым часапісе.

З пашанаю до Вас,
(а. Аляксандар Надсон)

*К. Чабатар*

# Дзе крыўда, дзе праўда?

*«За зайца — бычок-траячок»*

Хоць мне было ўжо семнаццаць год ад хвіліны, як я, нарадзіўшыся, заплакаў, але-ж я ўсё яшчэ быў пастухом! А сапраўдным пастухом стаў я не адразу: перш пачаў ад гусей-сьвінейцялят і аж дастаў атару авечак. Ну, ведама, пасьвіў ад сьнегу да сьнегу. Як вясной сьнег злазіў, дык я засоўваў лементар на паліцу і браў пугу. А ўвосень, як сьнег выпадаў, я падтыкаў пугу пад страху і браўся за лемантар. Таму я і аставаўся ззаду ад сваіх аднакласьнікаў. Так прайшло шмат гадоў — памятных, бо прытым быў і сабака, аўчарка-Мурза.

Выганяў раненька, штось каля трэцяй. А якія-ж былі цудоўныя раніцы ў траўні! І бывала даволі відна, бо сьвяціла зара. Амаль усе на сьвеце яшчэ спалі пасьля працавітага дня: пераклікаліся позьнія пеўні і ляніва пабрэхвалі сабакі. Дзе-недзе рыпалі ля студняў жоравы, дзе руплівыя гаспадынькі сьпяшаліся чэрпаць ваду. З комінаў роўненькімі стаўбамі падымаліся ў неба дымы. З садоў цягла духмяным пахам квітучай садавіны. А мая атара авечак падымала хмару сівога пылу: самі авечкі кашлялі ад яго, чхаў і Мурза, падганяючы маруднікаў. У паветры бывала ціха і пыл не зганяўся з дарогі, ад чаго прыходзілася мне аставацца крыху ззаду.

У такой поўнай цішыні загараўся рассьвет: неба на ўсходзе зелянела: радзіўся адзін з незьлічоных клапатлівых днёў. Залаціліся хмаркі і сьвятло разьлівалася па ўсей усходняй старане і сонца маестатычна ўсплывала ў акіяне нябеснага прастору, абліваючы серабром праменьняў лясы і паля.

За аколіцай цягнулася вялікае балота, зарослае густою асакой: на ім ляжаў рэдзенькі туман. Балота з аднаго боку было акаймавана алешнікам, скуль цягнула пахам квітнеючай чаромхі і чуваўся сьпеў — трэлі — адстукваньне дзесяткаў салаўёў. Здалёку драліся драчы і гукала ўдава-зязюля. З за Лебядзевае гары ўстала сонца. Туман рассеяўся, салаўі заціхлі. Паважна па балоце брадзілі буслы, а з над асакі даносіўся тужлівы віск кнігаўкі. Там-сям дуднелі бакасы. Сонца ўсё падымалася вышэй, а ягоныя праменьні заломліваліся ў кропельках расы на тысячы розна-каляровых дарагіх каменьняў. Высака ў небе зьвінелі жаваранкі, славячы Ўсемагутнага за такі цудоўны сьвет!

*

У адзін з такіх ранкаў я надыбаў пад яловым кустом няжывога зайца: патузаў за поўсьць — ня лезе, значыць, недаўна даканаў самагубства (?). Думаю сабе: скурачка яшчэ добрая, а Іцка можа дасьць 20 грошаў, дык будзе пару кручкоў вудзіць рыбу. Зара зьдзёр скурку (за якую пасьля бацька ледзь ня зьдзёр скуры з мяне!). — Нацягнуў на развіліну і, прыгнаўшы атару дамоў, падаткнуў над прызбай пад страху: увайшоў у хату і стаў сьнедаць. А ў думках пераскакваў з праектаў на аб'екты: то быў на рэчцы, ловячы ўдатліва рыбку, то ганяўся па полі за кульгавым зайцам і г. д . . . — Бацькі былі на полі.

Мурза ляжаў на жываце не падалёк стала, палажыў морду на пярэднія лапы і цяжка дыхаў носам. Ад пары-да-пары лыпне на мяне рыжым вокам, замармыча, ізноў заплюшчыць.

Аж раптам падняў галаву, наставіў вушы і, як куля, кінуўся ў дзьверы. Як на бяду, дзьверы былі толькі прычынены. Я — да вакна! Бачу — паліцай злазіць з самакату, а Мурза заядла соваецца да яго! Ён чамусьці вельмі ня любіў паліцэйскіх, а тымбольш на веласіпедах. А звычайна, хоць яму на хвост наступі, ні на кога не забрэша — аж мама казала: «Нашто мы яго дарма кормім?»

Я-ж крычу: «Мурза, пайшоў вон!» а ён, наставіўшы на сьпіне шэрсьць, нехаця, палез у кануру.

Паліцай, абапёршы самакат на весьнікі, дастаў аловак і кніжачку і пытаецца... Не, пытацца ня трэба! бо на хаце таблічка з нумарам і прозьвішчам гаспадара. Сеў на прызьбе і нешта там пісаў. Вырваў лісток і кажа:

— Сабака не на прывязі — злоты штрафу! —

Ужо падняўся адыйсьці — аж нейкае ліха дало яму падняць галаву і . . . ўбачыў заткнёную заячую скурку пад страхою.

— А-а? — кажа — сабака ловіць зайцоў! . . .

Прысеў ізноў на прызьбе і напісаў другую запісачку: «Штраф — 5 злотых», кінуў яе мне і сам паехаў дамоў.

Вярнуўся бацька з поля, пабачыў квітанцыі на стале і пытае:

— А гэта якія гасьцінцы? —

Я расказаў, як што было. Бацька схапіў дзягу: — Чаму-ж ты, кажа, лайдак, не заплаціў? Ах, ліха на іхнюю галаву! Усёроўна не адчэпяцца, каб яны дзе ў віры зачапіліся . . . —

Ну, я неяк пасьпеў вышмыгнуць надвор з пад рук бацькі: гэты раз удалося мне астацца «сухім».

Неяк хутка перад калядамі атрымаў бацька вызаў у суд і гэты раз прышлося мне на «сухім» не абыйсьціся. Прышлося даўжэйшы час чухаць тое мейсца, дзе трапляў пастаронак. Мароз і мяцеліца, а бацька пацягнуўся ў Наваградак, 25 кілямэтраў!

На судзе ні слова ня было пра сабаку, а ўсё абаснавалася на зайцы, што «справа выпала вясною, калі самкі выводзяць малых; а гэтая самка магла прывесьці сямёра, а тыя яшчэ по гэтулькі... Дык, эх, было-б паляваньне! а так...» і за ўсіх няісуючых зайцаў бацьку налічылі плаціць 20 злотых. Бацька адразу дастаў 20 зл. і кажа: — Маеце за ўсіх прапаўшых зайчыкаў!.. —

Судзьдзя як крыкне: — Што ты, хлопе, звар'яцеў? Ня бойся, грошы не прападуць: іх возьмуць у цябе ў сваім часе. —

І адразу бацьку далажылі яшчэ 5 злотых за абразу суду. Дык бацька кінуўся ў канцэлярыю з гэтымі грашмі, але і там ня прынялі. Толькі сказалі: — Чаго ты так сьпяшаешся? хопіць часу: забяруць — не забудуцца!

Нарэшце аж у сакавіку, калі зіма пусьціла, бацька сядзеў у хаце, але без работы ён ніколі ня бываў: віў пугі, путы, пастронкі з канапель, стругаў зубы да грабель, каб у летку ўсё было ў запасе. Ён любіў гаварыць: — Хто жыве без запасу, той гіне без часу! —

Толькі што мы пасьнедалі і я чамусьці не пайшоў у школу (ці то лапці мае пацяклі, ці што другое?), бацька толькі прынёс канапель і шыкаваўся віць пастронкі, як — шусь! — пад хатай затрымаўся самаход. Увайшлі два незнаёмыя панкі і наш солтыс. Мама хутчэй сабрала са стала, выцерла яго і заслала новым абрусом.

Яны селі на ўслон і адзін палажыў пузатую торбу на стол і пачаў выцягваць паперы. Знайшоўшы патрэбную, пачаў чытаць:

— Вас, пане Антоні Чабатар, суд... такога — то дня, месяца, году... пакараў за зьнішчэньне ў забаронены час зайцоў на 20 злотых. За абразу суду — 5 злотых. Судовых коштаў — дваццаць злотых. За наш прыезд — 30 злотых і таго — 75 злотых! —

Даецца тыдзень тэрміну — ўнесьці суму ў навгарадзкі суд. Госьці паехалі, а мы... Гэты раз бацька схітрыў: выпраўляючы паноў, стаў у самых дзьверах і мне ўцеч ня ўдалося! Злавіў мяне за каўнер, прывалок на той самы ўслон, палажыў, сеў на карк, узяў пастронак (гэтым ён мяне частаваў нярэдка) і так мяне навучыў, як шукаць праўды на сьвеце, што пад услонам сфармавалася лужынка! Гэта і асталося мне памятна да сьмерці!..

Прадаў бацька бычка-траячка і якраз за семдзесят пяць злотых і аддаў туды, дзе было запісана. А я так навучыўся шукаць праўды і шукаю яе да гэтага часу!

Сакавік 1970.

Аўстралія, Альбаны.

---

# Для цікавасьці і навукі

## КАРАН І БІБЛІЯ

БІБЛІЯ — асноўная кніга ў хрысьціянаў, а КАРАН — у мусульманаў-магамэтанаў.

Цікава, што ў Савецкім Саюзе Каран быў выданы ў Маскве ў 1963 г. па расейску: вонкава прыгожае выданьне, на добрай паперы і ў салідной аправе. І выпусьціла яго Акадэмія Навук з навуковым камэнтарам. І тымбольш характэрна тое, што Біблія ня была дасюль выдана ў Савецкім Саюзе, хоць яе вельмі патрабуюць веручыя хрысьціяне, якіх там ёсьць куды больш чым магамэтанаў! Ды і няверучыя, а нават і дзейныя атэісты і актыўныя бязбожнікі ня толькі цікавяцца Бібліяй, але яе патрабуюць для атэістычнай прапаганды. Аднак варожы дух камуна-атэізму не дапускае Бібліі ня толькі друкаваць, але і прывозіць з заграніцы.

А Біблія друкуецца на сьвеце больш чым у дванаццаці сотках моваў! І выдаецца ў мностве мільёнаў паасобнікаў... Бо гэта — ня толькі асноўная кніга хрысьціянаў, але кніга — помнік гісторыі і культуры ўсяго людзтва. З яе чэрпалі мастакі, мысьліцелі, паэты і гісторыкі.

Анак можна было-б нам закінуць, што ў 1956 г. Біблія была адзін раз выдана ў праваслаўнай Маскоўскай Патрыярхіі!.. Вось гэта нязвычайна дзіўная аказія-здарэньне!.. Адказваем: «была» і «ня была»! Як гэта?

Праўда, фармальна была выдана і прадавалася заграніцай па 10 даляраў, але ў Сав. Саюзе яе ў прадажы ня было і нідзе яе там не дастанеце. Ды і выдана была асаблівым спосабам:

1) Каран быў выданы афіцыяльна: паказаны работнікі, якія яго перакладалі і апрацоўвалі, а таксама і месца друку, (Масква К-45 Б. Кіслы перавулак).

2) А таксама быў паказаны і лік надрукаваных экзэмпляраў.

А для Біблії нічога падобнага ня было! І аказваецца, што яна была прыгатавана да друку ў Англіі — зроблены набор біблійнага тэксту, прыгатавана папера і аправа, а тады ўсё гэта прыслана ў Маскву і адбіта ў Маскоўскай Патрыярхіі дый выдана на падабенства прыватнага «манускрыпту». Гэтыя кніжкі Патрыярхія выдае свайму духавенству і студэнтам у духоўных акадэміях, а ў прадажы гэтае Біблії няма!

Такім спосабам злавілася «двух зайцаў»: заграніцай паказана, што ў Савецкім Саюзе існуе свабода рэлігіі, а ў нутры Саюзу паказана, што камуна ёсьць варожым рэлігіі рэжымам.

Каран дазнаў большае свабоды, але таксама ў Саюзе яго на гандлёвым рынку знайсьці пэўна што ня лёгка.

---

# Думкі з прачытаных кніжак

В. Розанаў (1856—1919) некалькі гадоў перад сваей сьмерцяй радыкальна зьмяніў свае адносіны да Царквы. Ён — паважны пісьменнік-філязоф — надта крытычна адносіўся да Царквы і хваліўся тым, што стаўся лепшым хрысьцянінам, чым моцныя царкоўнікі.

Вось цяпер ягоныя словы: «Царква ёсьць адзінае паэтычнае, адзінае глыбокае на зямлі. Божа, якое варяцтва, што я 11 гадоў рабіў усялякія стараньні, каб яе разбурыць! І як добра, што гэта не ўдалося. Бо чым-бы была зямля без Царквы? Раптам яна-бы стала недарэчнасьцяй і застыгла-б ... Бо магутныя дрэвы вырастаюць на старых грунтах ... Эвангелле бястэрміновае, а ўсё другое часовае. Вось у чым справа!»

*

Іншыя ягоныя думкі:

Вадаспад звальваецца ў мора, жалезная дарога даходзіць да станцыі, а чалавек? Няўжо чалавек — бяз станцыі, без канца і мэты?

Прышла старасьць. Падпаўзае сьмерць ... Вось арктычны полюс. Пялёнка сьнегу. І нічога няма. Такая сьмерць ...

Толькі канчаючы жыцьцё бачыш, што ўсё тваё пражыцьцё было вучэньнем, у якім ты быў няўважным вучнем.

Хто не знаў гора, той не знаў і рэлігіі ... Хто ніколі не плача, той не ўбачыць Хрыста. А хто плача — абавязка Яго ўбачыць. Я патрабую толькі ўцяшэньня і мне неабходны толькі Хрыстос.

---

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

Рэдактар ахвяруе — ў 7-мым годзе сваей працы ў «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» — Дарагім Чытачам «ПРЫПОВЕСЬЦІ паводле ЭВАНГЕЛЛЯ» — пераказ, замест кніжкі, якую ня было магчымасьці выдаць з браку гатоўкі.

Пры гэтым аўтар просіць ня нішчыць 4-га (121) нумару часапісу, а прылучыць яго да сваей хатняй бібліятэкі. Чытаць Прыповесьці адразу ня было-б так карысным і цікавым, як прыймаць іх у Духу Хрыстовым, бо і Гасподзь не адразу ўсё гэта высказаў, але асобныя прыклады даваў у важнейшых абставінах. Народ-жа задумваўся — аж людзі гаманілі: «Ніхто так не гаварыў, як Ён кажа! . . ».

Падобна і ў нашай эміграцыі, калі некаторыя сурОдзічы, даганяючы імпэт чужога жыцьця ў бізнэсах, пачынаюць затрачваць Божыя праўды, дык вельмі патрэба развагі і павароту да Эвангелля і да жывога Хрыста паміж намі.

І яшчэ аўтар просіць выразіць свае думкі і ацэнку майго «Пераказу» і даць ласкавую крытыку, а такжа пажаданьні адносна наше працы ў час. «Божым Шляхам».

Практычна ізноў паўтараем нашую настойлівую просьбу да Паважаных Чытачоў: Найперш дзякуем тым, якія дасюль прыхільна адносіліся і ўспамагалі наш часапіс. А просьба — такая: паводле сумленьня і грамадзкага абавязку — прысылаць належную **падпіску** і ласкавыя ахвяры!

«Хто чытае, а не плаціць,
Сябе гэтым не збагаціць —
Толькі дарма гонар траціць!»

Просім прысылаць свае пытаньні, заўвагі, добрыя рады. А такжа падтрымку для нашае слаўнае БІБЛІЯТЭКІ-МУЗЭЮ-АРХІВУ, якія ўжо ўладжваюцца ў новым доме!

Наконт «Божым Шляхам» дапаўняем, што з прычыны рэформы валюты ў Нямеччыне і даражыні пошты ў Англіі выдаткі на часапіс узрастаюць усьцяж. Была-б вялікая страта для грамадзтва, каб дзеля гэтых непаводзінаў прышлося перарваць выдавецкую работу. І мы і нашы Прыяцелі-Чытачы надта балюча гэта адчуваюць.

Лёндан, 14. IX. 1970.

З глыбокай пашанай
**а. Я. Гэрмановіч, рэдактар.**

ЗЬМЕСТ



Druck: „Logos“ GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14